# З ь м е с т.



Вышли только два номера

# ВОЛЬНАЯ ДУМКА

**Грамадзка-навуковая і літэратурна-мастацкая часопісь Беларускага Паступовага Студэнства.**

Адрас рэдакцыі: Вільня, Вітэбская 13.

Падпіска квартальна з перас. 2.40 зл.
Цана асобнага нумару . . 80 гр.

№ 1. | Вільня, 7. VII. 1929. | ГОД I.



Г. БЯРОЗКА.

## Адна ёсьць ідэя.

Адна ёсьць ідэя, адно ёсьць жаданьне,
Якому аддамся суцэльна душой:
Найбольшае ў сьвеце,—над шчасьце каханьня—
Народ бедны мой!

Адна ў душы вера: ў крывавам струменьні
Ён сьмела ісьці будзе па Волю—упярод,
Аж зьдзейсьціць урэшце свае лятуценьне—
Ўваскрэсьне Народ!...

А тыя, што згінуць, вячыстую славу
Сабе тым здабудуць, а іх заступіць
Жыцьцё створыць новых і... Дзяржаву
Жвавей яшчэ будуць тварыць,—

Бо мусіць за вольнасьць і праўду Змаганьне
Трыумфу сваей перамогі дапяць
І Волі зары прамяністай зіяньне
Сьвет будзе у запале вітаць...



# Ад Рэдакцыі.

Выпусканая часапісь мае выражаць думкі і настроі паступовага беларускага студэнства.

За апошні час сярод беларускай інтэлігэнцыі адбылася пэўная і большая дыфэрэнцыяцыя і крысталізацыя. Да кожнага жывога і магутнага грамадзкага руху—а такім у высокай ступені зьяўляецца і зьяўляўся беларускі нацыянальна-вызваленчы рух апошняга часу—прыстаюць часта і займаюць нярэдка адказнае становішча людзі, якія з гэтым рухам ня маюць нічога супольнага, а выкарыстоўваюць яго для сваіх, часта асабістых мэтаў.

Гэтых людзей трэба назваць коньюнктурыстамі. Яны выкарыстоўваюць коньюнктуру, сытуацыю для сваіх і іншых мэтаў. Калі коньюнктура зьмяняецца, гэтыя людзі лёгка адыходзяць ад руху. Гэтак сталася і з часткай беларускай інтэлігэнцыі, якая вырахавала, што коньюнктура у беларускім нацыянальна-вызваленчым руху ня зусім падходзіць для яе мэтаў і адыйшла на сваё запраўднае месца, адказваючае яе запраўдным настроям і ідэалёгіі.

Адыход названых коньюнктурыстаў ад шырокага нацыянальна-вызваленчага руху даў падставу і апраўданьне для падсьвядомых дасюль мяшчанскіх імкненьняў і часткі віленскага беларускага студэнства, паходзячай найбольш з дробнай шляхты, або выхаваных пры ўмовах, ня спрыяючых зблізэньню з імкненьнямі народных гушчаў.

Яна цяпер „самаакрэсьлілася“ ў бок, варожы гэтым імкненьням, ухапіўшыся за „маральнае апраўданьне“—паступаваньне „старэйшага грамадзянства“.

Мала таго, адыход коньюнктурыстаў ня толькі „санкцыянаваў“ запраўдныя імкненьні „мяшчан у студэнскіх шапках“, але і зактывізаваў, як іх, гэтак і тую частку, якая і раней была вядома як частка з „буржуазным ухілам“.

Пры такіх унутраных абставінах, для якіх ня ў меншай меры спрыялі і вонкавыя, беларускае паступовае студэнства, ня гледзячы на сваю лічбовую перавагу, не магло выявіць сваіх думак больш шырока. „Студэнская Думка“—орган нібы усяго беларускага студэнства, не зьяўляўся запраўды такім.

Афіцыяльны рэдактар, не зважаючы на рэдакцыйную калегію, самавольна выкідаў артыкулы, якія не адказвалі яго думцы, а зьмяшчаў артыкулы не—студэнтаў і бяз ведама рэдакцыйнай калегіі.

„Студэнская Думка“ пры такім стане рэчаў сталася пустацьветнай і нікому непатрэбнай. Яе ніхто ня чытаў, а шырокі беларускі агул нават ці ведаў аб існаваньні такой часопісі.

Да тога адбыліся справы і ў студэнскім жыцьці, якія мусілі быць высьветлены.

Усё гэта, разам узятае, прывяло беларускае паступовае студэнства да думкі выдаць паступовы незалежны орган.

„ВОЛЬНАЯ ДУМКА“ будзе мець на мэце выпрацаваньне ідэалёгіі таго беларускага студэнства, якое йдзе разам з шырокім рухам беларускай вёскі і места. Запраўды, шмат ёсьць зьявішчаў у нашым жыцьці, якія для многіх здаюцца няяснымі і патрабуюць высьсвятленьня. Само беларускае паступовае студэнства ня мае месца для выпрацаваньня ідэалёгіі, а якраз з яго мусяць выйсьці змагары за справу свайго працоўнага народу.

„ВОЛЬНАЯ ДУМКА“ заклікае ўсё шчырае, нездэмаралізаванае беларускае студэнства, адданае справе нацыянальнага і соцыяльнага вызваленьня свайго працоўнага народу да супрацоўніцтва і да паддзержкі ініцыятывы ў залажэньні і выдаваньні нашае часапісі.

„ВОЛЬНАЯ ДУМКА“ будзе ўдзяляць найбольш месца пытаньням шырокага нацыянальна-вызваленчага руху і высьвятляць іх з пункту гледжаньня карысьці беларускіх працоўных масаў.

„ВОЛЬНАЯ ДУМКА“ будзе пасьвячаць увагу і беларускай працоўнай моладзі, таму запрашае да наданьня вестак і інфармацыяў таксама ўсю моладзь, адданую справе народнага вызваленьня.

„ВОЛЬНАЯ ДУМКА“ будзе імкнуцца стацца тою кузьняю, дзе павінны выкавацца маладыя працоўныя сілы, будучыя змагары за беларускі працоўны народ і горача заклікае ўсё беларускае грамадзянства і шырокія масы да паддзержкі нас, як маральнай, так і матэр‘яльнай.

# З апошніх падзеяў у Б. С. С.

Працэсы, адбываўшыяся у старэйшым беларускім грамадзянстве, выклікаўшыя адыход пэўнае часткі беларускай інтэлігэнцыі ад агульна-вызваленчага руху, не маглі ня выклікаць водгуку і ў беларускім студэнстве. Гэты адыход даўно ужо дасьпяваў у Беларускім Студэнскім Саюзе, праяўляючыся ў штораз то халаднейшых узаемаадносінах студэнскіх групаў нязгодных ідэалёгіяў. Такое разыходжаньне беларускага студэнства паміж сабой, пачало яшчэ ад пачатку сёлетняга акадэміцкага году прымаць часта вельмі вострыя формы, надта прыкрыя тым, што ідэалёгічная розьніца і ідэолёгічнае незадаволеньне, папхнула беларускіх студэнтаў на фальшывы шлях—шлях асабістага змаганьня.

Гэтыя адносіны яшчэ больш завастрыліся ў сувязі з апошнімі падзеямі ў беларускім грамадзкім і палітычным жыцьці. Такім чынам пашыралась прорва паміж паасобнымі групамі студэнтаў Б.С.С. Нарэшце надыйшоў момант, калі гэтая прорва нарастаючых супярэчнасьцяў давяла Б. С. С. да канфлікту, у якім кожны сябра мусіў выявіць сваё ідэалягічнае аблічча.

Такім мамэнтам быў сход Братняе Помачы Унівэрсытэту Сьцяпана Баторага. Мяшчанская частка беларускага студэнства, якая звычайна называець сябе „дэмакратычнай“, будуючая сваю тактыку на кампрамісах, да якой належала большасьць Ураду Б. С. С., пастанавіла выкарыстаць гэты момант, каб за цану падтрыманьня польскай „дэмакратыі“ на выбарах да Ураду Братняй Помачы дабіцца ад яе пэўных „канцэсяяў“ больш фармальнага, чым рэальнага значэньня. Праявай гэтай тэндэнцыі мяшчанскай часткі беларускага студэнства была прапазыка аб зьмене статуту Братняй Помачы, у якой названая група, заклікаючы да засадаў „дэмакратыі“, „нацыянальнай і рэлігійнай талеранцыі“—дамагалася скасаваньня выразу „польскай“ са Статуту Братняй Помачы, спадзяючыся атрымаць у гэтым кірунку галасы польскай дэмакратыі.

У гэты час паступовая частка беларускага студэнства ня бачучы ў гэтых надзеях нічога рэальнага, лічучы, што яны тут будуць выкарыстаны польскай „дэмакратыяй“ толькі для змаганьня з эндэцыяй, уважала, што ня туды вядзе шлях барацьбы за запраўдныя беларускія „дамаганьні“.

Дзеля вышэйсказанага паступоўцы, уважаючы зьмену статуту Братняе Помачы, у кірунку выказаным прапазыкай, фармальна справядлівай, не маглі аднак падтрымаць матываў зьмены статуту выказаных у прапазыцыі і кампрамісовай тактыкі пры выбарах Ураду Братняй Помачы. Апрача таго, яны наагул не спадзяваліcь ад Агульнага Сходу Братняй Помачы прыняцьця прапазыкі аб зьмене статуту. Але ім залежала на тым, каб выйсьці са створанай сытуацыі не з пакорнымі галавамі пераможаных, але так, як належыць змагаром, вядучым барацьбу за свае дамаганьні. Сьмешна было-б думаць, што беларускія вызваленчыя дамаганьні могуць быць задаволенымі скасаваньнем вы-

разу „польскай“. Такая лёгіка можа зьяўляцца толькі у вузкіх нацыяналістаў, якія ня цікавяцца шырэйшымі праблемамі агулу грамадзянства.

Усе спадзяваньні паступовай групы беларускага студэнства спраўдзіліся: прапазыка аб зьмене статуту Братняе Помачы была адкінена. Нашыя „дэмакраты“ дасталі належную сабе навуку. Тагды разам з Урадамі К.С.У. і L.S.S. Урад Б.С.С., становячыся ў дыктатарскую позу, загадаў усім сябром Б.С.С., каб яны ў знак пратэсту апусьцілі салю паседжаньня Братняе Помачы. Як належыць „дэмакратам“, у асьведчаньні аб гэтай пастанове было выказана адным калегаю, што „мы (беларусы, літоўцы і украінцы, Рэд.) працягвалі да вас (польскае „дэмакратыі Рэд.) братнюю руку дзеля згоднага супрацоўніцтва на акадэміцкім абшары, а вы гэтую руку адкінулі, і таму нам нічога не застаецца, як выйсьці з салі“. І яны так, моўчкі, з апушчанымі галавамі, пад бурныя воплескі і рогат эндэкаў апусьцілі салю.

Будучы пастаўленай перад такім фактам, група сяброў Б.С.С., не згаджаючыся з дзіўнымі, самаўладна данымі сабе Урадам Б.С.С. „паўнамоцтвамі“ дыктатуры ў Саюзе,—засталася ў салі і прыняла ўдзел у падтрыманьні цэлага раду рэзалюцыяў, важных для жыцьця нашай акадэміцкай беднаты, а тым самым і для студэнтаў беларусоў.

У далейшых падзеях, на жаль, мусім зазначыць сумную ролю „пана“ Бартуля. Лічучы дасюль сябе паступоўцам, ён раптоўна перад сходам Братняе Помачы, зьмяняе сваю тактыку (як ён сам прызнаўся) і на паседжаньні Ураду Б.С.С. 11.V. г. г. падтрымліваець прапазыку старшыні аб завешаньні ў правох сяброў Б.С.С. 5-ёх паступовых студэнтаў, якія праявілі найбольшую актыўнасьць на сходзе Братняе Помачы. Трэба сказаць, што гэтае завешаньне зьяўляецца нязгодным са Статутам Б.С.С., што зазначана у зьмешчаным ніжэй пратэсьце.

У такіх ненармальных абставінах распачаўся так-жа ненармальны Агульны Сход Б. С. С. 26.V г.г. Не ўважаючы на тое, што пастанова Ураду аб завешаньні пяцёх студэнтаў зьяўляецца няправўнай, што было неаднакроць зазначана перад Урадам, Урад ня толькі не дапусьціў завешаных сяброў да права голасу у справе выбараў старшыні Сходу, але нават ня даў ім магчымасьці выясьніць перад Агульным Сходам свае „віны“. Баючыся адкрыта змагацца на Агульным Сходзе з „завешанымі“ сябрамі, Урад і кампрамісавая („кампрамітоўная“) група студэнтаў пастановілі вырашыць іх справу ў іх адсутнасьці. „Суд“, у якім абвінавачаных пазбаўляюць ня толькі права голасу, але нават права быць прысутнымі на салі паседжаньня, зьяўляецца адзіным хіба ў сваім родзе вымыслам так „бліскуча“ праявіўшай сябе групы, кіраванай п. п. Гагалінскім, Куніціцкм, Шкялёнкам і іншымі спэкулянтамі на справах Б. С. С.

Судзьдзі хто? Хто сабою прадстаўляюць кіраўнікі гэтай групы, якія ўзялі на сябе права, нават ня лічучыся са Статутам, а толькі разьлічываючы на выпадковую сваю большасьць, судзіць калегаў. Гожа тут прыпомніць, што пан Гагалінскі, ў м. Глыбокім на практыцы, будучы старшынёй Б. С. С., ня прызнаўся ня толькі да свайго старшынства Б.Б.С. але выракся нават таго, што ён зьяўляецца беларусом. У пэўным часе

дзеля нейкай паненкі гэты панок выступіў з Б. С. С. На Агульным Сходзе, будудучы старшынёй, страшыў паступовых студэнтаў рэктаратам, карным судом, а нават... *Лукішкамі.* Гэта, хіба не найлепш яго характэрызуе.

Пан Куніцкі, якого маральнае аблічча ясна характэрызуецца ў надрукаваным ніжэй пратаколе, не заслугоўваець на тое, каб яго яшчэ больш высьвятляць.

„Дыктатар“ Шкялёнак, якога ўдзел у працы Б.С.С. абмяжоўваецца дробнымі інтрыгамі падчас Агульных Сходаў, які наагул лічыць непатрэбным падтрымоўваць калежэнскія адносіны з агулам сяброў Б.С.С., дамагаўся поўнага выключэньня з Б. С. С. усіх пяцёх няпраўна завешаных сяброў саюзу.

Наагул, трэба сказаць, што большасьць гэтае групы паходзіць з дробнае шляхты, ці буржуазнага мяшчанства і зьвязана з імі ідэалёгіяй.

Лёгка было прадбачыць вынік такога Агульнага сходу. Ня значнаю большасьцю (16 голасоў супроць 13, пры адсутнасьці пяці) была прынята пастанова аб завешаньні на два трымэстры (апошні трымэстр 28/29 акадэміцкага году і першы 29/30 г.) кал. кал. Саковіча і Вялецкага і аб выражэньні заганы кал. кал. Хворосту, Вярбіцкаму і Касяку. Пасьля прыняцьця гэтае пастановы „абвінавачаным“ далі права вярнуцца ў салю. І тады ад імя „абвінавачаных“ кал. Хвораст, як сябра, катораму было вернена права голасу, выступіў з дамаганьнем перагляду справы, каб мець магчымасьць выясьніць агулу сяброў прычыны, змусіўшыя завешаных на такі „праступны учынак“. Але пан Гагалінскі, відавочна баючыся высьвятленьня гэтае справы, адкінуў, не матывуючы, прапазыку кал. Хвораста і перайшоў да далейшага парадку дня.

Паступоўцы ўважалі, што з імі паступлена проста брутальна і мусілі задэкляраваць свае становішча. Дзеля гэтага кал. Саковіч, апіраючы свае выступленьне на праўных падставах, пачаў з катэдры тлумачыць учынкі пяцёх „абвінавачаных“. Вось-жа тады п. Гагалінскі, доктар і старшыня Б.Х.Д., кінўся з кулакамі да кал. Саковіча, хочучы фізычнай сілай даказаць свае „паўнамоцтвы“ і сваю „праўду“. Ведама, што заставацца ў такой атмосфэры было немагчыма, дзеля чаго ўсе беларускія студэнты, не ідучыя на кампрамітуючыя сакрэтныя змовы, з польскай „дэмократыяй“ са сьпевам „Ад веку мы спалі...“ апусьцілі салю.

Цікава, што ў даным выпадку большасьць тых, якія асталіся на салі, знайшла патрэбным узяць прыклад з эндэкаў, на якіх так нядаўна „абуралася“ на сходзе Братняе Помачы і бурнымі воплескамі праводзіла выходзячых з салі. Але шмат дзівіцца гэтаму ня трэба, бо адзін з іх, пан Тулейка, іншым разам сказаў: „нам трэба беларускіх эндэкаў„.

Ведама, што пасьля выхаду з салі такой вялікай часткі студэнтаў сход „праводзіўся“ далей, не зважаючы на тое, што адзін сябра Ураду і двое (большасьць) Рэвізыйнай Камісыі (у тым ліку яе старшыня) апусьцілі салю перад справаздачай Ураду Рэв. Кам. На гэтым-жа сходзе быў выбраны новы Урад, і той самы пан Шкялёнак, аб якім была мова вышэй, аказаўся „старшынёй“ Саюзу.

Паступоўцы злажылі пасьля гэтага афіцыяльную дэклярацыю (якую ў суцэльнасьці падаем ніжэй), зазначаючы сваё непрызнаваньне новага Ураду і лічэньне сходу не правамоцным.

На гэтым справа ня скончылася. У „Сялянскай Ніве“ № 5 за 9.VI. г. г. нехта падаў у хроніцы зацемку аб Агульным Сходзе Б. С. С. з 26.V., у якой даволі „далікатна“ выліваецца бруд на завешаных і іх сымпатыкаў. Маральную адказнасьць за такую зацемку паносіць бязумоўна, „новы урад“ Б. С. С., які сьвядома хаваючы факты, маніцца гэтакім чынам увесьці ў памылку шырэйшыя колы беларускага грамадзянства.

Паступовая група беларускіх студэнтаў ня можа пакінуць усяго гэтага без адказу, і адказам яе павінна быць тое, што есьць вышэй: праўдзівае і поўнае высьвятленьне ўсіх фактаў, як яны былі і якое яны маюць значэньне.

## Пратэст.

Мы, ніжэпадпісаныя сябры Б. С. С., гэтым пратэстуем супроць:

1) Няпраўнага завешаньня калегаў і пазбаўленьня іх права галасаваньня на Агульным Сходзе, як нязгоднага са статутам Б. С. С., не даючым падобных паўнамоцтваў і выразна зазначаючым, што справа выключэньня сяброў саюзу належыць да кампэтэнцыі агульнага сходу. Статуту павінен падпарадківацца Урад, таксама, як і паасобныя сябры;

2) Нядапушчэньня да дыскусыі квэстыі правамоцнасьці завешаньня Урадам сяброў Б. С. С. старшынёю Агульнага Сходу кал. І. Гаганінскім.

3) Няпраўнага пазбаўленьня абвінавачваных сяброў Саюзу права вытлумачэньня сваіх ўчынкаў перад Агульным Сходам, паміма афіцыяльнага запэўненьня гэтага калегай Тулейкай.

4) Аднабокага вядзеньня Аг. Сходу старшынёй кал. І. Гагалінскім, якое сьцьвярджаецца нават тым фактам, што, калі прапазыка аб завешаньні кал. кал. Саковіча і Вялецкага на 2 трымэстры і скасаваньня завешаньня іншым калегам ўжо прайшлі праз Аг. Сход,—старшыня ня даў прынятым ўжо праўна калегам голасу, дзеля чаго, як калегі завешаныя, так і ўсе тыя, каторыя абураліся за такое няпраўнае вядзеньне Аг. Сходу, змушаны былі ў знак пратэсту апусьціць салю.

Дзеля ўсяго вышэйсказанага гэты Агульны Сход і выбраны на ім Урад ня можам лічыць за правамоцны; падпарадківацца таму Ураду, ў выбары якога удзелу ня прыймалі, ня можам, і дамагаемся:

1) Поўнага скасаваньня пастановы Ўраду Б. С. С. з дня 11.V.29 г. аб завешаньні 5-х Сяброў Саюзу,

2) Скліканьня Надзвычайнага Агульнага Сходу і новых выбараў да Ўраду Б. С. С.

Падпісы:

В. Уласэвічанка, Я. Хвораст, Я. Касяк, М. Кулеша, М. Маскалік, М. Скурчанка, Б. Вялецкі, А. Казлоўская, Б. Кіта, С. Асаевічанка, Ю. Саковіч, А. Вярбіцкі, А. Карнюк, П. Шчасны, Я. Клагіш, М. Маргаўлкі і Чайкоў.

# Пратакол.

Мы, ніжэйпадпісаныя студэнты Беларускага Студэнскага Саюзу, з прычыны абразы гонару кал. М. Скурчанкі грам. Т. Куніцкім на Агульным Сходзе сяброў Б. С. С. ў дню 26.V.1929 г. сьцьвярджаем наступнае:

Няпраўдай зьяўляецца, быццам кал. М. Скурчанка захавала ад нас факт свайго падпісу на пратаколе аб завешаньні 5-х сяброў Б. С. С., ў той самы дзень, кал. М. Скурчанка паінфармавала нас аб фактычным стане рэчаў і аб прычынах, змусіўшых яе даць свой подпіс на выжэйуспомненым пратаколе.

З прычыны ўсяго выжэйзазначанага лічым гловы гр. Т. Куніцкага бруднай хлусьнёй, разьлітай на нас, каб ўнесьці нязгоду ў нашы рады і забрудзіць добрае імя кал. М. Скурчанкі. Дзеля гэтага ўважаем грам. Куніцкага, як сьвядома распаўсюджваючага ману, чалавекам не ганаровымі, не ўважаем магчымым падаваць яму руку да аканчальнага вырашэньня гэтай справы калежанскім судом.

Падпісы:

Я. Хвораст, А. Вярбіцкі, М. Кулеша, Ю. Саковіч, Я. Касяк, Я. Кіта, Г. Вялецкі, А. Казлоўская, П. Шчасны. Б. Уласэвічанка, А. Карнюк, М. Маскалік.

---

# Голад ў Заходняй Беларусі.

Кожная беларуская вёска, кожны беларускі селянін больш-менш добра знаёмы з голадам, бо кожнаму беларускаму бедаку-сяляніну што году прыходзіцца ад вясны (а то і ад Каляд)“ да жніва перабівацца паўголадам. Такім чынам, беларускі селянін яшчэ з дзецтва прывыкае, зжываецца з голадам,—а прывыкшы, кажуць, і ў пекле добра. Таму цяпер, ў сілу гэтай прывычкі, ня ўсякая з беларускіх вёсак, не галадаючая вышэй роўня гэтага звычайнага селянскага голаду, пачуўшы аб нейкім „страшным“ голадзе ў паўначнай Віленшчыне, здае сабе добра справу з таго жудаснага становішча, ў якім цяпер знаходзіцца галадаючая далёка за гэтай „дэмаркацыйнай лініяй“ сялянскага голаду Віленшчына і, нават, частка Навградчыны.

Голад там цяпер прыняў такую вострую форму, што прайці моўчкі міма гэтага ня можа ніхто, нават і тыя, што здольны над чужым горам ліць толькі „кракадылявы сьлёзы“, ды рабіць чым найбольш шуму і галасу, быццам хочучы памагчы. І гэтыя „кракадылявы сьлёзы“ з нашага гора ліюцца цяпер з вачэй польскай прэсы ў форме „добрых“ парадаў ды падаваньня на сваіх шпальтах абразкоў голаду ў родзе ўзятага тут, дзеля прыкладу, наступнага:

„Gaz. Pol.“ з 12.V.29 г. „Са ўсіх бакоў віленскага ваяводзтва наплываюць штораз больш алярмуючыя ведамасьці пра катастрофу голаду. Голад такі страшны, што сваімі разьмерамі перавышае голад, які быў на Віленшчыне зараз па вайне. Прычына голаду—няўраджай, спозьненая вясна. Паведамляюць, што жыхарсва ўжо тыдні жывіцца лупінамі з бульбы, акія (лупіны) купляе ў мястэчках, прадаючы ўсё гаспадаркі. Ў Эйшышках знаходзяцца ў шпіталі хворыя на галадавую пухліну. Адчуваецца вялізны брак пашы. Худобу (быдла) гадуюць стрэхамі. У сьвянцянскім і брацлаўскім паветах забракла нават лупінаў з бульбы. Жыхарства там жывіцца карэньнямі. Ў вёску Калкуны прыехала павятовая камісія, аднак не магла дастукацца ў хаты, бо насельніцтва прыгатавалася на сьмерць. Сяляне пазамыкалі з сярэдзіны хаты і разам з жонкамі і дзяцьмі ляжалі, чакаючы калі сьмерць скароціць іх галодныя мукі“.

А далей тая-ж самая газэта канчае:

„А адначасна міністэрства ухваліла вольны вываз жыта за граніцу аж да 1 жніўня. Ці маець збожа задужа? Памінае дасьведчаньне, што — колькі разоў мы вывозілі „надвышку збожжа“, — толькі разоў мы пазьней ўвозілі тое самае збожжа назад, разумецца, даражэй. Сьцвярджаем, што ня ёсьць звычаем дзяржавы вывозіць збожжа тагды, як яе правінцыя пухне з голаду“.

Ня скупяцца ня такія „плакучыя“ мовы і ўсе іншыя газэты. Ўсе яны аднолькава кажуць, што галадае 150,000 („крыху“ памыляюцца — рэд.), што страты ў зьвязку з голадам ў адной Віленшчыне налічваюцца да 180 мільёнаў зл., ўсе яны аднолькава прызнаюцца, што дзяржаўная дапамога галадуючым павялічана толькі да 3 мільёнаў злотых.

Што-ж болей „пацяшаючага“ падае гэтая прэса? А тое, што апрача далёка не задаваляючае дзяржаўнае помачы (3 мільёнаў), на ратунак голадаючым утварыўся яшчэ „Камітэт Помачы“ на чале з непапулярнымі ў Бел. Народзе был. мін. Справядлівасьці, абшарнікам Мэйштовічам, біскупам Ялбжыкоўскім і іншымі. Камітэт гэты, як зазначаецца яго закладчыкамі, мае за мэту распадзел дапамогаў. Робяцца яшчэ і іншыя палёгкі, на кшталт адкладваньня падаткаў на далей, даваньне пазычкаў, ў лік якіх, або за працэнты на іх даўжнікі мусяць адрабляць пры будове дарог і г. д. ўжываюцца і іншыя паўмеры, зразумела, далёка ня задавалючыя патрэбаў галадаючых. Гэта сьцьвярджае нават і сам віленскі ваявода, кажучы, што: „ў галіне дапамогі насяленьню, пацярпеўшаму ад неўраджаю, існуюць яшчэ вялікія патрэбы, так што хуткая грамадзкая дапамога, паміма ўрадавае абавязкава і надалей“.

Аднак ня гледзячы на такую патрэбнасьць грамадзкай дапамогі, стараньні Беларускага Сялянска-Работнікаў Пасольскага Клюбу (як інформуе „Сьвет“ № 2) яшчэ з восені прошлага году залажыць Камітэт грамадзкай дапамогі ў Вільні пацярпелі няўдачу. Мала таго, як інфар-

муе той-жа 2 № „Сьвету“, дык з грамадзкай дапамогай голадаючым— вышэназванага пасольскага клюбу робяцца проста незразумелыя рэчы: „Паданы у Варшаве Статут „Камітэтў Голадуючых“ п. п. Старосты ня хочуць прызнаваць, як гэта робіць п. Баранавіцкі Староста“.

Канстатуючы такое сумнае становішча і факты, варта было-б пашукаць прычынаў гэтага няшчасьця. Дзе-ж яны? У чым іх хто бачыць?

Ўсе, ліючыя, „крыкадылявы сьлёзы“ над голадам беларускай вёскі бачаць гэтыя прычыны ў леташнім неўраджаі, цяжкай зіме і спозьнянай вясьне.

Ці-ж запраўды гэта так? Ці-ж беларуская вёска ў мінулыя гады заўсёды была сытая па горла? Не, гэта немагчыма, бо добрыя $^2/_3$ сялянскіх гаспадарак нашай вёскі не перавышаюць 4 дзесяцін. Сяляне жывяцца пераважна бульбай, якой так-сама часта не хапае. Заработкаў на месцы няма. У гарадох сваё безрабоцьце, а тым больш цяпер, калі перажываецца агульны гаспадарчы крызыс. Выязд заграніцу, галоўнае ў Амэрыку — немагчымы, бо і Амэрыка ўжо перапоўнена, ды і ня кожнаму хопіць на дарагу, нават прадаўшы ўсю сваю гаспадарку. Зямельная рэформа праводзіцца так, што з яе карыстаюцьца толькі замажнейшыя сяляне, ды асадніцтва. Ат ым часам прырост насяленьня ідзе натуральным тэмпам, і бяз таго дробныя гаспадаркі драбнеюць яшчэ больш. Ствараюцца лішнія рабочыя рукі, якія таксама патрабуюць зарабіць собе, хлеба. Але дома зарабіць — няма дзе, бо хіба кожнаму ведама, якую мы маем прамымсловасьць. За дом выяхаць — немагчыма.

Гэтыя „лішнія“ шырокіх пластоў нашага сялянства аб'цяжаюць яго ўсё і яно мусіць стала недаядаць, яно стала галадае, але не з прычыны якога небудзь няўраджаю, а з прычыны малазямельля, бо і у ўраджайныя гады малазямельле галадае. Гэта ўсякаму ведама.

Значыць, не нямая стыхыя тут вінавата, ня мінулае лета, зіма, і вясна, не. няўраджай, гэты прыпадковы чыньнік, які толькі заагніў цяпреашняе становішча нашай вёскі тут вінаваты, а вінавата тут сталая прычына, — сталае малазямельле і беззямельле нашай вёскі. Таму і запраўднае змаганьне з голадам сялянства наагул павінна быць змаганьнем не з яго пабочнымі, прыпадкавымі прычынамі, а з сталай прычынай, з коренем зла — з без і малазямельлем шырокіх пластоў сялянства, бо калі-б яно было цяпер хоць крыху багацейшае, то мела-б за што купіць хлеба, пры так велькай падажы і параўнайчай таннасьці яго.

**ПАДАРОЖНЫ.**

# „Расьцьвет культурна-нацыянальнага жыцьця Усход. Беларусі".

**Львоў, 1928 г.** (на украінской мове).

*(Перадрук с часоп. „Діло" №№ 102—109).*

Не вялічкая кніжка у 40 старонак пісана пяром старога і шчырага прыяцеля беларускага народу украінца Сьвенціцкага, які яшчэ у часе першай рэвалюцыі вітаў першыя яго крокі на шляху яго культурнага і усебаковага адраджэньня — горача напісанай брашурай „Адраджэньне беларускага пісьменства" „(1908 г.)", а таксама і асабістымі зносінамі з павадырами новага беларускага адраджэнскага руху. Кніжка — настолькі цікавая, што дамо яе кароткі агляд чытачом.

## Дваццаць гадоу таму назад

У новай сваей працы, таксама дыхаючай гарачай сымпатыяй да братняга і суседняга народу, аутар робіць агляд таго, што зроблена за 20 гадоў у беларускім культурна-нацыянальным жыцьці—ад часу выхаду яго першай кніжкі, а асабліва за апошнія 10 гадоў.

Аўтар сцьвярджае, што цяпер „маем права казаць **аб расьцвеце усяго культурна-націянальнага жыцьця беларусі**", — ды ня толькі на Ўсходзе, дзе гэты расьцвет — „яўны і з вялікім размахам", але і на Заходзе, дзе ён — „затрыманы часовымі варункамі палітічнага жыцьця, прыпынены кансэрватыўнымі і рэакцыйнымі чыньнікамі".

Першае 10-лецьце пасьля Вялікай вайны аўтар справядліва называе — „пэрыадам расьцвету сацыяльна-нацыянальнай сьведамасьці ува-ўсіх паняволеных народаў". З гэтай сьведамасьці вырастае магутная **воля самастойнага жыцьця, да барацьбы за вызваленьне, да самаабароны**, а гэтая сьведамая воля нясе з сабой і „вечную гібель ўсялякаму насільству — у яго найглыбейшых карэньнях"...

Але, слушна падчыркiвае аўтар. да усяго гэтага, да гэтай самавызваленчай стіхійнай сілы — патрэбна **веда жыцьця, веда яго законаў,—узбагачаны, узмацаваны навукай розум...**

### Нацыянальнае пытаньне у трох Інтэрнацыяналах.

Аўтар кажа, што найглыбей — у самым корані — ўхапілі законы жыцьця тыя сьветагляды, якія пабудаваны на матэрыялістычным разуменьні сьветавых зьяваў.

Бо-ж гэтыя сьветагляды апіраюцца на навуках сьціслых, якія робяць дасьледы над зьявамі ў іх рэальнай сутнасьці. Кожны ведае, на-

прыклад, сколькі сьвятла і яснасьці ўносіць „эканамічны мэтад“ у галіну палітыкі, у якой самыя простыя і рэальныя імкненьні і апэтыты пануючых клясаў і народаў іх кіраўнікі заўседы хочуць прыкрыць рожнымі шляхотнымі „ідэалістычнымі“ матывамі...

Так, напрыклад, — навэт сацыялізм 2 першых Інтэрнацыяналаў быў узапраднасьці вельмі няшчырым ў стасунку да т. зв. „Недзяржаўных народаў“, высоўваючы заўсёды **сацыялістычныя аб‘еднаньні не народаў, але дзяржаваў.** Такім чынам, сацыял-дэмакратыя расейская — у украінскім і беларускім пытаньні зыходзілася цалком з русіфікатарамі, а польскія сацыялісты — з эндэкамі... „Навэт вялікая вайна не прымірыла боручыхся варожных групаў унутры II Інтэрнацыяналаў.

Такім чынам, сацыял-дэмакратыя «бараніла слабшых перад сільнейшымі толькі тады, калі гэты сільнейшы быў не нацыянальным праціўнікам, але прыгнечаньне з боку свайго нацыянальнага ўраду проці іншых народаў знаходзіць у сацыял-патрыётаў заусёды тыя ці іншыя апраўданьні і абарону для свайго ўраду“... (ст. 6).

— Такім чынам — згодна з прынцыпамі сац.-дэм. групаў 2 Інтэрнацыяналам — расеискай і польскай — **беларусы мелі або разчыніцца у 10-разоў лічнейшым вялікарасеискім моры... або — здасцца на ласку двойчы — лічнейшых іх палякау.** Такім чынам культурна-нацыянальнае жыцьцё Беларусі, якое выяўляла сваю творчую сілу столькі вякоў, мела **замерці** — поводле тэорыі аб‘еданых ў 2 Інтэрнацыянале расейскіх і польскіх сацыял-дэмахратыў“ (6). Слушна падчырківае аўтар і агідна-крывадушнае абвінавачэньне народна-вызваленчага руху — у нейкім „нацыяналізьме“, ці „шовінізьме“, ці „сьляпым фанатызьме», якія прывівае народу „жменя беларускіх дзеячоў“ руху, які дамагаўся **толькі поўні правоў** для культурна-нацыянага жыцьця Беларусі!..

Зусім інакш, кажа аўтар, падайшоў да нацыянальнага пытаньня Ленін. „Ленін зразумеў, што творчы сацыялізм павінен быць жаралом адраджэньня, разьвіцьця і расьцвету нацыяў, каб — праз поўню нацыянальнага жыцьця стварыць спрыяючую падставу для актыўнай палітыкі сацыялізму“, І вось гэта як быццам на яву зьдзейсьніла самыя даўнія і нясьмелыя лятуценьні паняволеных народаў, адчыніўшы для іх ўсе шляхі для новага жыцьця. — Навэт калі, кажа аўтар „Комінтэрн можа й думаў сабе адно, **дык жыцьцё брала свае? — у створаных для яго вольных абставінаў — тварыла па сваім патрэбам і па свайму разуменьню“...** — „Бо-ж камуністы складаюць 1 прац. ўсяго вялізарнага насяленьня СССР, дык — **не яны-ж, натуральна, твораць ў ім жыцьцё, але масы і народы“!..** Папросту сьмешным; лічыць аўтар тыя перасьцярогі рожных „прыяцяляў беларускага нероду“ якія кажуць, што—„ўсё, што даюць Рады паасобным народам, гэта толькі выдаецца карысным для іх, але ўзапраўднасьці ўсё гэта — „нячысты падарунак ворага“... — „Падумайце толькі: у Вільні паўстануць курсы беларусазнаўства, а ўсе ўрадоўцы і гандляры, хто-б яны не былі — палякі, жыды, літоўцы, расейцы — стануць вучыцца пабеларуску, а беларусы палітоўску, бо-ж папольску ўсё умеюць. Унівэрсытэт, ўрад,

школа, касьцёлы, царквы грамадзскія ўстановы — ўсё скрозь — пабеларуску... Ці-ж ня варта было-бы прыняць такі „падарунка ворага?!“... забіўча іранізуе аўтар...

Цытатамі з Леніна аўтар высьветляе, чаму — „палітычны нацыяналізм, які імкнецца да вызваленьня народаў з-пад вызыску чужаедаў, аслабляе міжнародную адсталасьць і ўстарэласьдь дробна-мяшчанскіх і панскіх колаў, зьяўляецца этапам да шляху да братняга сужыцьця ўсіх народаў, да стварэньня адзінай агульна-людзкай сям‘і працоўнага народу“.

Менск—Вільня—Львоў. Каб даказаць гэта, аўтар раўнуе нацыянальнае жыцьцё ў Менску і ў Вільні. „У Менску беларускае жыцьцё кіпіць ключом. — Унівэрсытэт с 3 Факультэтамі, дзяржаўная бібліятэка, беларускі музэй, дзяржаўны тэатр, Інстытут беларускай Культуры, (**цяпер**—Беларуская Акадэмія Навук), дзяржаўнае кніжнае выдавецтва, гурток пісьменьнікаў „Маладняк“, гурткі навуковага вывучэньня краю, масы беларускіх школаў, беларускіх ўрадовых ўстановаў,—ўсё гэта надае Менску выразна беларускі характэр... ўсе гэта робіць Менск запраўднай сталіцай Беларускай Рэспублікі“.

Але натуральная перавага беларусоў зусім не задушывае там вольнага нацыянальнага жыцьця — ані жыдоў, ані палякаў, якое працякае ў законнай пашане, карыстаецца поўнай аховы і спагаду з боку ўладаў. Унівэрсытэт, хаця там і беларускі, але і жыды і палякі маюць ў ім **свае катэдры**, не кажучы аб іншых школах. І ніхто з беларусоў ніколі не падумае, што на жыдоўскіх (ці польскіх) курсах можа зрабіць сабе гняздо „процідзяржаўная, процібеларуская крамола“!...

„А паглядзіце цяпер на Вільню, кажа аўтар, на тую самую Вільню, якую цяпер польскія патрыёты лічуць — „найпрыгажэйшай пэрлай кароны польскай“, а якую калісьці Польшча абецала літоўцам і беларусом берагчы (для іх!...) як зяніцу вока“...

Аўтар-украінец дае яркі- ведама пэўне-ж яшчэ лепш нам —беларусом ведамы малюнак нацыянальнага беларускага жыцьця ў Вільні, ў якой адрадзіліся і кіруюць „застарэлыя“ пагляды польскай шляхоцскай ідэолёгіі 18 веку“... Дае абраз і „Нацыянальнай палітыкі“ ў Львове.

## Хістаньні у праве самаазначэньня.

Аўтар кажа, што і Радавы ўрад не адразу заняў такое шырекае становішча ў нацыянальным пытаньні. Былі сьпярша хістаньні, якія выходзілі **з пачуцьцяў страху перад „раздрабленьнем дзяржавы“**, якія і цяпер стрымліваюць рожных „абедініteлей“, ці централістаў на ўсім сьвеце. Але, кажа ён, „чыста разумовае, практычнае становішча Леніна „перамагло усе страхі, усе „пачуцьці ў палітыцы“. Перамаглаб язьмежная вера ў няпераможную сілу **жыцьця**, ў яго арганічныя патрэбы, якія і зьяўляюцца адзінай запраўднай праграмай палітыкі. „Жыцьцё, гэта — наймацнейшая сіла і крэпасьць самазахаваньня і самаазначэньня. „Уся-

лякія праграмы — толькі шляхі і спосабы для ажыцяўленьня патрэбаў **жыцьця**. Без гэтай канчальнай мэты ўсялякія праграмы — пустыя, калі не шкодныя, путы.

## Тыпы жыцьця у пісьменстве (беларускім)

Пасьля гэтых агульных, уступных разважаньняў аўтар пераходзе да агляду таго, як адбілася гэта **новая эра беларускага адраджэньня ў літэратуры,** наказываючы, як глыбока адчула і зразумела чулая і творчая душа беларускіх пісьменьнікаў **прынцыповую вартасьць і сілу вольна-нацыянальнага разьвіцьця і ўзросту адзінкі і народу.** Новыя беларускія пісьменьнікі даюць цэлы сьцяг **нэгатыўных тыпаў** на прыкладзе якіх паказываюць, як ліквідуецца сіламі новага жыцьця ўсе тыя „чалавечыя пазасталасьці“, „перавязкі“ папярэднага пэрыяду **няволі**, ўсё тыя людзі, якія — ў новых вольных абставінах жыцьця — робяцца — **„непатрэбнымі людзьмі“** для сябе, **шкоднымі праз гэта для грамадзянства.** „Непатрэбны чалавек“ **Міхася Чырота, „Адам** Залес“ Хурсіка, Сідар Броварка ў ап. „Трэскі на хвалях“—Ц. Гартнага, Яроцкі ў ап. „Голы Зьвер“ Міх. Зарэцкага, „Саматканая сьвітка“ М. Чарота і інш. Усё гэтыя тыпы **засуджаны новым жыцьцём на гібель, як шкоднікі новага грамадзянства, ў якім яны ня умеюць знайсьці сабе адпаведнага месца.**

## Касьмічныя праблемы ў літэратуры.

Выходзячы з аналізу гэтых тыпаў аўтар дае, так сказаць, „філязофію“ ўсіх гэтых зьявішчаў, жывым адбіцьцём якіх зьяўляецца літэратура. Ён устанаўлівае „**закон залежнасьці адзінкі ў даны час ад жыцьця калектыва** („зборнасьці“), — будучага **жыцьця калектыву ад гэтай адзінкі**“. Жыцьцё адзінкі і калектыву, такім чынам, цесна зьвязана ўзаемнай жывой залежнасьцяй, ўзаемнай маральна-грамадзкай адказнасьцяй. Трэба толькі знайсьці ясны і бяспрэчны **крытэрыум (агульную меру дабра)**, якое былоб добром супольным і аднолькавым для адзінкі і калектыву, — каб гэтым дабром кіравацца ў індывідуальнай і калектыўнай працы. Аўтар знаходзіць гэты агульны крытэрыўм у **волі, — „волі жыцьця, волі усебаковай, поўнай, якой ніхто-б не баўся, якой усе аднольнава жадаюць, якую трэба, павінна здабываці навэт за цану уласнага жыцьця“**!.. „Гэта творчае жыцьцё можа быць толькі ў зборнасьці і для зборнасьці. Кожны запраўдны тварэц-мастак бяз жалю аддае ўсё свае жыцьцё за прыгожую будучыню ўсяго чалавецтва“.

Шукаючы адбіцьця гэтага новага „**вольнага і творчага жыцьця“, гарманічнага сынтэзу адзінкі і калектыва — у новай літэратуры „Беларускага Усходу“**, аўтар указывае на цэлы сьцяг тыпаў грамадзкіх працаўнікоў, выведзеных Зарэцкім у зборніку „Пад сонцам“. Новыя беларускія пісьменьнікі на сходзе, глыбока і шчыра-горача захопленыя ўсімі гэтымі пытаньнямі, а — галоўная рэч — **вырашаючы гэтыя пытаньні і праблемы жывымі мэтадамі рэальнага нагляду і досьледу ў жывым творчым жыцьці, з свайго боку — гэтым жывым рэальным, актыўным і актуальным зьместам — „ідэяй — сілай** свайго творства—

захопліваюць свайго чытача-беларуса, дый ня толькі на Ўсходзе, але і на Захадзе. А таму і самі яны зьяўляюцца неапошняй творчай сілай ў новатворачымся **вольным жыцьці вялікага белрускага „Гмаху-Грамады“**. Аўтар дае сьцяг тых пытаньняў, якімі захоплена сучасная літэратура на Ўсходзе. „Што лепш, стары ці новы лад? З кім ісьці з палякамі, з белымі, ці з Ленінам? Шанаваць прыказаньні бацькоў і дзядоў, ці тварыць свой новы — вольны ад ўсялякіх перӑжыткаў сьветагляд? Спадзявацца чаго лепшага ад якогасьці няведамага, збаўчага „заўтра“, ці—самым **сяньня** брацца за працу, каб самым тварыць гэта сваё лепшае „заўтра“, сваё лепшае жыцьцё? Хто каму вораг: вёска месту, ці места, вёсцы? Хто — дужэйшы: апор шырокіх масаў, ці творчая воля адзінкі? Ў чым воля жыцьця: ў гульні, ў здавольненьні пахатлівасьці, ці—ў братэрстве ды ўзаемнай помачы для асягненьня вышэйшых мэтаў“? і г. д. т. п.

Аўтар сьцьвярджае, што — „ў вырашэньні ўсіх гэтых запраўды найважнейшых пытаньняў на старонках беларускага пісьменства **зьвініць вялікая радасьць, б‘е ключ новага жыцьця, дый сьцелецца перад расьветнай імглой вялікая туга стогне жаль бязьмерны“**...

## Вяшчуны новага жыцьця.

Ў душы чалавечай, як ў сяменьні расьліны, схавана будучына. Паэты, пісьменьнікі, маючыя чулую, творчую душу, знаўцы душы чалавечай, дзеля таго ў значнай меры зьяўляюцца **прарокамі, прадвідцамі**. Дзеля таго — ў паэзыі і нашага народу — задоўга да таго, калі зрэалізавалася, ажыцявілася **воля жыцьця** народу, як **сучаснасьць**, тая-ж **воля жыцьця** жыла — **як надзея, як прадчуцьцё, як спадзеваньне**, а — ў найвялікшых тварцоў народнага духу — нават, як **пэўнасьць**, амаль не „духоўная **рэальнасьць“ адраджэньня і вызваленьня ў будучыне**.

Аўтар дае кароткі агляд гэтых прадчуцьцяў **волі жыцьця** у беларускай паэзыі пачынаючы ад 1907 г. — у Купалы, К. Буйлы, Цёткі, Бядулі і інш. Раўналежна дае аўтар водгукі **волі** жыцьця ў яе сучаснай творчай і радаснай поўні — ў сучаснай паэзыі „Маладняка“ — у Іды Чырвань, ў Банд‘рынай, Вішнеўскай, Пфлямбаум. У гэтай паэзыі будучыня стала „сучаснасьцяй“, імкненьне, лятуценьне — реальнасьцяй, сонную, сум, тугарадасьцяй творства і працы — ў гарманічным зліяньні адзінкі з жыцьцём масы роднага народу...

Асабліва падчырківае аўтар запраўды-ж цікаўнае зьявішча **магутнай жаноцкай паэзыі на беларускім ўсходзе. „Гэта зьліцьцё беларускай жанчыны з магутным вызвольным струменем ёсьць ня толькі праявай яе паэтычнага сьветагляду, але вынікам яе зборна-жыцьцёвага размаху.** Слушна аўтар ўспамінае тутака „першую жанчыну“, якая распачала гэтую ролю жаноцкай душы ў вызвольна-творчым руху беларускім — нашу „Цётку — Кэрысову-Пашкоўскую!

Аўтар дае цікаўны агляд жаноцкіх тыпаў, створаных новай беларускай літэратурай. Вось Алёнка— ў коласавым рамане „На прасторы

жыцьця“, якой так удалося шчасьце гарманічнага сынтэзу асабістага жыцьця і грамадзькай працы.

Вось Настулька — ў апав. Зарэцкага — аб тым, „як яна стала камсамолкай“. Вось Наста, якая не баіцца пакахаць „Чалавека, які не радзіўся“. А „не радзіўся ён, таму што ў часе вайны ў яго загінула мэтрыка што так пужала яе „бацькоў“! Вось—„Сельсаветчыца“ і „Параска“ Барашкі, „Дэлегатка“ Бядулі, „Распусьніца“ Ц. Гартнага, „Дзўная“ М. Зарэцкага і г. д. — Усё гэты — рожныя, жывыя тыпы сучаснай беларускай жанчыны, якая чынна і дзейна, сэрцам і душой прымае ўдзел ў тварэньні новага жыцьця, часам не хістаючыся як, „Марына“ Чаротова, **адмовіцца ад сваей жаночай натуры, калі гэтага вымагае самаахвярны заклік яе вышэйшай натуры чалавека і грамадзяніна.**

Слушна кажа аўтар, што **такія жанчыны ў народзе, гэта — сымбаль і залог яго перамогі над насільнікамі...**

## Сацыяльныя пытаньні ў пісьменстве.

Талентны дасьледчык праяваў **„волі жыцьця“** і творства беларускай душы на Усходзе адзначае ў „рэвалюцыйнай псыхіцы“ беларускіх пісьменьнікаў вельмі цікавую рысу. — Ён кажа, што — нягледзючы на грозныя сьляды, пакінутыя навалай ворага і ваеннымі аспусташэньнямі... ўсё-ж ў **беларусоў няма столькі ненавісьці да паноў, скольки яе ў паноў ёсьць.** — Для **„здраднікаў“** і **„бунтаўнікоў“**, — для беларускага мужыка, які, быўшы рабом „разьбіў кайданы, пусьціўся (ён) ў сьвет да сонца і да зор“... Але гэта не парашкаджае таму, што матывы захопленьня сацыяльнай рэвалюцыяй маюць ў паэтаў Усх. Беларусі вельмі значнае месца. Такім баявым паэтам-барацьбітом, **„песьняром беднаты і паняволенага краю“** зьяўляецца **Зьм. Бядуля.** Аўтар дае яркі агляд зьместу і значэньня яго паэзыі і яго сьветагляду, канчаючы надзвычай цікаўнай агульнай характэрыстыкай **мастацкага мэтаду беларускіх пісьменьнікаў — ў апісаньні ўсіх жахаў і страхоцьцяў хатняй вайны.** У апавяданьнях пра тое, як „белыя“ контр-рэвалюцыянеры, паны і іх абаронцы хацелі завясьці стары лад і йзноў падпарадкаваць—Беларусь сваім законам, ані водны белар. пісьменьнік—старэйшы ці молодшы—не выходзіць па-за межы забражэньня факту, асабліва — якогась мамэнту перамогі, пераважна маральнай. **Беларусы — скупыя на словы, яны ня любяць шаблёну, пустаслоўнай маны, галоснага думаньня (пра прыроду і вагу хвіліны). У іх — апавяданьні высьветляецца само сабой, некалькімі штрыхамі (рыскамі) лёгкімі контрастамі, сьледуючы ў гэтай мастацкай манеры — за „добрымі традыцыямі вялікай сусьветнай літэратуры“, з якой ў гэтым ясна дагледжывае аўтар бяспрэчную сувязь.**

Трафную характэрыстыку дае аўтар і Цішкі Гартнага, гэтага — **„**публіцыста рэвалюцыі, зьвястуна новага жыцьця, аборонцы законнасьці яго зьяўленьня“. (28). Яго раман „Сокі Цоліны“, „Бацькава Воля“ вышла ў 1922 г., „На Перагібе“ — ў 1926 г. аўтар называе „вялікай эпапэяй новага жыцьця работніка і паступовага заміраньня

старога сьветагляду". Зьмест яго зборніка „Трэскі на Хвалях", (1924 г.) ахопліваючага — ў 16 навэльках — новае жыцьцё ў Радавай Беларусі, аглядчык выражае так: „Часы голаду, барацьбы, навалы суседаў; зьвіхненьне ізноў — пад панскім панаваньнем — сьветапагляду, паступовая адбудова самапашаны — побач з пашанай іншых, зразуменьне іх патрэбаў".

Ў чым-жа зьмест гэтага **новага жыцьця**, якое так захоплена рысуюць белар. пісьменьнікі Ўсходу?

„Першым крокам гэтай вялікай **рэвалюцыі сьветапаглядаў і рэальнасьці ёсьць зьява простай сялянскай мовы ў школе, навуцы, палітыцы дзяржаўным жыцьці!**

**Гэта-ж ў беларусі адна з найвялікшых і найглыбейшых рэвалюцыяў!**—За **ўтрыманьне яе здабыцьцяў ідзе па ўсей Беларусі аднолькавая барацьба. Барацьба гэта робіцца адзінай мэтай жыцьця, не дасягнуць гэтай мэты, значыць — не жыць, але памёрці назаўсёды (для народа)! Такім чынам — не за права на ўладу ідзе гэта рэвалюцыя, але — за новы сьветапагляд, за права на добрыя вынікі зьдзейсьненьня ідзі рэвалюцыі**";..

Аўтар яшчэ і яшчэ раз падчырківае, што таму — пры ўсей абароне радавай ўлады, у радох,—беларускіх пісьменьнікаў—нама нідзе „казёншчыны, безпадстаўнага самахвальства, пустога славаслоўя рэвалюцыі і новага ладу. — „Няма навэт ў прававерных партыйцаў, якія — праз „Маладняк" — хацелі-б насадзіць камунізм на ўсім сьвеце"

„Няма ў беларусоу і няпрымірымага падыходу да сваіх праціўнікаў-белагвардзейцаў, паноў і суседзяў. Не! **Беларускія пісьменьнікі глядзяць на іх, як на людзей, якія маюць свае перажываньні і пачуцьці, якія часам — якраз дзеля гэтага — могуць быць для нас вельмі цікавымі.**

Баларускія пісьменьнікі, кажа далей аўтар, не любяць ніякага „асаблівага сосу патрыятызму, нацыяналізму," асабліва сьцярагучыся „ўсялякай аднабокасьці ў асьвятленьні апавяданых падзеяў". Яны не крыюць навэт свайго людзкага спачуваньня пабітым ворагам-ахвярам няпераможнага новага жыцьця.

Чалавечае жыцьцё для белар. пісьменьнікаў, кажа аўтар — „*Рэчдаражэйшая за найхарашэйшыя ідэі! Калі толькі мы самі — з ўлас. най волі і ахвоты — не аддаем яго — свайго жыцьця за гэтую ідэю*"..

Гэты трафна падмечаны і тонка фармуляваны талентным дасьледчыкам беларускай творчай душы *асаблівы шляхотны гуманізм беларускіх пісьменьнікаў і іх скупы на словы „мэтад мастацкай праўды" — робяць толькі яшчэ сільнейшым мастацкае ўражэньне ад іх твораў*, як сцьвярджае сам аўтар.

„*У праўдзе мастака, даскапала кажа аўтар, няма злосьці і ненавісьці, а ёсьць толькі сьведамасьць і пэўнасьць гэтай праўды*". І такімі мастакамі зьяўляюцца беларускія пісьменьнікі, кажа ён. *А гэтая вялікадушнасьць народу ў перамозе — першая азнака трываласьці, яго пера могі, доказ запраўднай сілы народу*!

## Дасягненьні завершанай рэвалюцыі.

Рэвалюцыя зьдзейсьніла — ў неспадзеванай поўні — ўсе лятуценьні расейскіх народалюбаў ўсялякіх кірункаў.

„Права беларускай мовы спараджае *Беларускую навуку, раўнапраўнасьць Беларускага народу з народамі — украінскім і расейскім, дый раўнапраўнасьць ўсіх народаў ў Беларускай рэспубліцы — толькі узмацняе вагу Беларускага народу ў міжнародным палітычным жыцьці. Адным словам, завершэньне палітычнай і ідэалягічнай рэвалюцыі дало такі вялікі размах Беларусі,* што яна пэўне-ж будзе горача і зацята бараніць і берагчы праўныя падставы сваіх дасягненьняў, як багаславенныя вынікі вялікага ўсерасейскага перавароту, як законныя дасягненьні грамадзянства — нацыі“! — „Вось, кажа аўтар, ў чым — сіла пасьлярэвалюцыйнага ладу паасобных нацыянальных рэспубкікаў ў СССР“.

## Два сонцы беларускай літэратуры.

Апошні разьдзел талентнай кніжкі І. Сьвенціцкага дае трафную, як заўседы, характарыстыку двух першых тварцоў-песьняроў нашага пісьменства — Купалы і Коласа, слушна ставячы на першае месца Купалу.

З цэлага сцьцягу трафных і цікаўных увагаў і спясьцярогаў адзначным асабліва слушную думку, што *для абодвух гэтых песьняроў — пракокаў рэвалюцыйная перамога народу была даўно спадзеваным, амаль не рэальна — бачымым ў блізкай прышласьці няйхільным зближаючымся зьявішчам — законам волі жыцьця, таму ніякай рэзкай перамены ў іх творчестве рэвалюцыя; і не зрабіла...*

Трэба шчыра падзякаваць шчыраму прыяцелю беларускага народу брату-украінцу, які сам на мейсцы бачыў і чуў усё, аб чым ён так талентна піша, — падзякаваць перад ўсім — *за яго любоў, за яго захопленую сымпатыю да жыцьця і лёсу беларускай душы, якую ён так тонка разумее!.. Разумее — бо кахае!..*

Як доказ нашай удзячнасьці, нашага адказнага каханьня, трэба безадкладна перакласьці цалком на нашую мову харошую кніжачку І. Сьвенціцкага, аб багатым зьмесьце якой мы далі тутака толькі слабое паняцьце.

Гэта — пільная справа, — абавязак нашага Беларускага друку.

ТРЭЦЬЯКОЎ.

# У ЧУЖУЮ СТАРОНКУ.

Мне ўжо пятнаццать год. Апошні год вучобы ідзець да канца хутка і няпрыкметна. Мы редзей гуляем у косьці і грошыкі, а часьцей пабраўшыся за рукі і ходзячы па парку марым аб тым, куды мы пайдзем посьле школы.

Я̆ на баку Францыі. Гэта край рэвалюцыі. Пасьля, французам быў такі вялікі грамадзянін як Жан-Жак Руссо. Да гэтага, у французаў рэспубліка. Французы не робяць для Кітая такіх нагласьцяў, як напрыклад Японія, у каторую я паехаў-бы, каб ня было здарэньняў 1916 г. і тых 21 дамаганьня, каторыя японскія міністры хацелі вырваць у неудольнага імпэратара Юнь-Шы-Кая.

У Японію я паехаў-бы можа таму, што там вучыўся бацька, але ганебныя дамаганьні гэтай старонкі, выдрукаваныя на летніх веярох, прадаючыхся на вуліцах, стаяць на маіх вачох таксама, як у вачох кожнага кітайца і я з агідай думаю аб японскіх унівэрсытэтах.

Група староньнікаў Францыі зьбіраецца цесная і верная. Мы абсуджываем, колькі можа каштаваць праезд, дзе ўзяць грошы.

Калега запальчыва торкаець мне пад нос ліст ад свайго шанхайскага таварыша. Вербаўшчыкі ў Шанхаі наймаюць моцных людзей для працы ў францускіх гаванях і францускіх фабрыках. Яны бяруць на сябе праезд і нядрэнна аплачваюць працу.

Таварыш ледзь ня плача. Ён усе гэтыя дні ходзіць заклапатаны— дзе ўзяць грошы. Ён занатта бедны, ён ня зможа нават сабраць на кругавы заём.

Бязумоўна. Надзвычай добра. Ён моцны хлапец. У яго добрыя мускулы. Ён будзе працаваць 8 гадз. у дзень, а 4 гадз. будзець займацца. Ён вытрымаець. Гэта нават карысна — зьменяць разумавую працу на фізычную.

Мы чытаем ліст да таго, што ён робіцца брудным, а нарэшце ад яго застаюцца адны шматы. А ноччу, у спальні бачым Францыю, светлую, вучачую нас, даючую нам грошы і моцныя рукі падымаючыя на плечы нецяжкія пакі, каб акупіць 4 гадз. вучобы патрэбныя для галавы.

Прайшло толькі 2 гады і вясёлая, разумная, ветлівая Францыя зрабілася для нас гідкім скарэдам з прагавітымі рукамі, гнілым і нелітасьцівым сьмехам.

Таварыш мой паехаў у Францыю. Я не змог. З яго лістоў, у каторых ад ліста да ліста пагасаў запал, я зразумеў, што пакі былі занатта цяжкімі, што для галавы не засталося часу на заняткі, што увага пайшла на параходныя трапы — як-бы не аступіцца, што рукі і ногі ў канцы дня трасліся і патрэбавалі ложка, ці нарэшце дашчатых полак.

Добрая аплата (якім багацьем нам здаваліся у Сычуані гэтыя дзесяткі франкаў!) давала студэнту менш варанага цеста і бульбы ў дзень, чым можа ў Лін-Сы купіць насільшчык паланкінаў за аднадзёвую працу.

Пакуль шла вайна, моцныя рукі кітайскіх студэнтаў былі патрэбны, але вайна скочылася, салдаты вярнуліся да хаты, францускія пакоўнікі прыйшлі ў гавані, францускія працоўнікі дамагліся сваіх мейсцаў пры станкох.

Фрацускія рабочыя ненавідзелі танных кітайцаў, зьбіваўшых ім цану. Рабочыя кітайцы адыходзілі ад пакаў у свае заканурkі праз шарэнгу пагарджаючых ненавідзячых і галодных вочаў.

Адзін за адным прымушаны былі адыходзіць ад працы студэнты. У Фрацыю іх прывозілі дарма, але назад у Кітай білет каштаваў соткі даянаў.

Як было вучыцца змарнеўшым хлапцом, ледзь цягаючым ногі на вуліцы і прыліпаўшым да вітрынаў са смачнай ежай за шклом?.

Студэнты — кулі працягвалі руку на раздарожжах, але іх панура абходзілі і нічога не давалі. Студэнты — кулі звальваліся на вуліцах Марсэля і Бордо—аднакавыя ажаны падымалі іх як дохлых сабак і здавалі у карэтку скорай помачы, а ў шпіталях, палажыўшы іх лёгкія і празрыстыя целы у ложка, дахтары і сёстры—манашкі ў вялізарных накрахмаленных чэпчыках—ня верылі іх хваробе, бо тэмпэратура і пульс былі нармальныя, а голад—гэта-ж ня тыф і не шкарлятына—лячыць яго не ёсьць абявязкам францускага ураду.

Раздражненна, расплёсківаючую кіненую хвораму талерку зупы, сястра шмат гутарыла і з яе слоў, студэнты—кулі зразумелі некаторыя.

— Гультай. Ухіляецца ад працы, вылежваецца катармана.

На апошнія грошы куплялася папера і марка, цельнымі месяцамі ішлі лісты ў далёкі Сычуань, Хунань, Юньнань і часта канверт з роднай вёскі абложаны кітайскімі і францускімі штэмплямі ня прыймалі у хаце, чый адрас быў памаляваны чорнымі хвосьцікамі тушы.

— Такого тут няма.

А дзе-ж ён?

А нідзе. На могілках. Два тыдні ўжо як павесіўся. Адашліце ліст назад.—А другі паміраў бяз болю. Хадзіў чалавек хадзіў, спачатку еў праз дзень, пасьля пра два дні, пасьля цэлны тыдзень сядзеў на аднэй бульбе і нарэшце сканаў. Таксама ціха, без темпэратуры, бяз корчаў. Згас так, як згасаюць сяляне ў галодных паветах. Яны кладуцца ў ложка і ляжаць захоўваючы ў сваім целе рэшту цяплыні. Яны чакаюць часу. А можа адкуль-небудзь, якімсь цудам жаласьлівая рука дасьць ім жменьку рысу. І калі рыс не зьяўляецца, яны паміраюць і паволі раскладаюцца, так мала ў іх застаецца сырога мяса — усё ссохлася у паперу.

І таварыш мой памёр, і калі его распатрашылі, то ў жываце знайшлі ком неператраўленай бульбы. Ён еў толькі бульбу бяз солі і аслабеўшы арганізм ня змог ператравіць гэту валакністую прасноту.

Г. БЯРОЗКА.

* * *

I.

Ў той час, калі пад цяжаром нядолі,
Пад мукай безнадзейнага жыцьця
Хацеў памерці я, каб дзесь шукаці волі,
Пазбыцца каб распачы пачуцьця;

У час, калі у сьвеце, поўным бруду,
Там, дзе пануюць крыўды, гора, зьдзек,
Убачыў я вакол адну аблуду,
Дзе замяняецца на зьвера чалавек;

У той час, калі апошняя надзея
Абманута, асьмеяна была,
Калі над намі ўзьвілася завея,
Навісла чорная імгла;

Калі ўсе здрадзілі, усе заняпасьцілі,
Ды нават лепшыя — і тыя адракліcь:
Паклаўшы рукі, толькі сьлёзы лілі,
Што сёньня ўжо ня так, як то было калісь;

Калі суменьня, працы сьцяг паганым
Іменьням збрудзілі і збэсьцілі зусім:—
Зьявілась ты адна, і вобразам сьвятляным
Развеяла імглу—і разагнала дым.

Зьявілась ты адна і, чыстая душою,
Занадта чыстая, каб быць між тых людзёў,
Засталася аднак усею жыць зямлёю,
І мукі прыняла, і смуткі ўсіх гадоў;

Зьявілась ты адна, нясла ідэю чыну,
З душой сьвятой, з ахвярой без канцоў,
У душы маёй вялікую руіну,
Руіну роспачы направіла ізноў.

II.

Ўсказала мне шляхі, дзе трэ' змаганьне весьці,
Цярпела ўсё, за ўсіх, дзе скрыўджаны браты,
І вочы ціхія—сымболям вечнай чэсьці,
Сымболям праўды мне зрабілась ты!

Так, ты мяне цяпер вярнула да надзеі;
Пакуль ты паміж нас,—ня ўсё згубілі мы:
Бо прыйдзе час, калі нам заясьнее
Радосны дзень, прагнаўшы ноч турмы.

А. С.

# Летняя ноч у весцы.

Сабака гаўкнуў раз, другі,
Ў далі замерла плачам рэха.
Пялёнка жальбы і тугі,
Спавіла сэрца—не да сьмеху.

Сьмяюцца зоркі, зіхацяць,
З высі, з лазурнай неба далі,
А ў вёсцы сон, у вёсцы сьпяць.
Там біцца сэрцы перасталі.

Акутаў вёску цёмны сон,
Снуе, прадзе ніткі драмота,
І толькі ў сьвята песьні тон,
Парушыць ціш, спакой, самоту.

І толькі месяц вартаўнік,
Гуляе вечна без клапотаў,
Жартуе з хмаркай чараўнік,
І спаць яму няма ахвоты.

З заходу вецер спудзіць хмар,
Ен плюне небу хмарай у вочы,
І страшна ў вёсцы тады ў ночы,
І злосны неба ў ночы твар...

С. Ш.

# Голад.

Куды, страшны ён і высокі
Быццам з магілы устаўшы здань-скелет.
У лахмананы жабрацкія адзет
Разьвеяў вецер плашч яго шырокі.
Песьню віхры яму пяюць хаўтурна
Спавіў туман яго густы як дым,
Ваўкі галодныя ідуць у сьлед за ім,
Гдзе пройдзе ён там мёртва і пахмурна.
І ўсе народы корацца прад яго сьцягам
І бяз прашкоды ён ідзе пустынным шляхам
Праз беларускі ён ідзе абшар,
Гдзе з даўніх лет пануе зьдзек, няволя,
Гдзе для чужых прыблуд, хлеб родзе поле,
Яго сяліба тут, бо ён наш цар.

АЛЕСЯ Ц

# Каб толькі год адзін.

Каб толькі год адзін, ды год вясёлы і шчасьлівы!
Каб толькі год адзін!... Год волі і свабоды—
Аддаў-бы за яго ўсе маладыя сілы,
Аддаў-бы за яго усё сваё жыцьцё,
Аддаў-бы за яго бяз жалю і бяз шкоды
Усё,—усё...

Каб толькі год адзін! Год сьветлы, год бясхмарны,
У якім за ноччу мар ня йшоў бы, як звычайны,
Тужлівы дзень за днём, дзень-ноч і без канца
й бяз меры,
Як мутная вада, як восеньню туман, так
аднастайны, шэры,—
Каб новы год! Год новай працы, новага жыцьця,—
Аддаў-бы за яго сусьвету багацьцё,—
Аддаў-бы радасна, ахватна—як дзіця—
Усё,—усё...

Каб толькі год адзін! Ды год бяз болі і мучэньня,
Бяз плачаў здушаных у поўначнай цішы,—
Год бяз маны, ахвяраў і блуджэньня
Бязьмерна шчасьця прагнучай душы;
Каб толькі выліць ўсё, што нястрымана рвецца
З юнацкага віра: мысьленьня, вогненага сэрца;
Усе імкненьні, думкі, ўсё каханьне—
Каб толькі выліць ўсё—усё дазваньня,—
Я не хачу ў замен вякоў існеньня!...
Нашто тым жыцьцем даражыць,
У якім адны ахвяры ды мучэньне,
Ў якім так душна—немагчыма жыць!...

Каб толькі год адзін! Год адпачынку—
людзкай працы;
Каб толькі год пажыць, як зьнікнуць турмы
і палацы—
Лад вызыску, рабунку, прыгнячэньня—
І не хачу ў замен вякоў існеньня:
Нашто таму жыцьцё сваё цаніць,
У якім ён толькі „чорны вол“,
І мусіць больш вала цярпець ярмо і коль
І ўсё жыцьцё адно рабіць... рабіць?!...

С. Ш.

# Усход сонца.

На сіні нябесны прастор
Усходзе бляск сонца крывавы,
Чырвона асьвечаны бор
І поля і дзікія травы.

І беднае наша сяло
Чырвона ўсё памалявана
А сонца на неба ўзышло
З за сініх аблок і тумана.

Так сама над нашай зямлёй
Зьніштожанай, скрыўджанай многа,
Абмытай сьлязьмі і крывёй —
Узойдзе дзень міру сьвятога.

На полі хлеб будзе радзіць
Людзей асьвяціць сьвет навукі
І будуць свабоднымі жыць
Нашы унукі праўнукі.

# Зорка.

Браты, нам зорка засьвяціла.
У нас вялікая ёсьць сіла,
Трэба да працы дружна стаць,
Адкрыта сьветлая дарога,
Не забаімся мы нікога,
    Будзем з няволяй ваяваць.

Ускалыхнёмся мы як мора,
А нашу славу, наша гора
    На сухі лес памчыць віхор.

Сьвеціць нам зорка над усходам
І будзем вольным мы народам,
    Такі гістор'ыі прыгавор.

Дамо руку адзін другому,
Ня будзем мы служыць нікому,
    Ня будуць нас кляваць крукі.

Збудуем Бацькаўшчыну самі,
І сьвет лічыцца будзе з намі
    Мы ужо... не парабкі.

Г. В.

# Творчасць Лесі Украінкі.

## I.

Канец XIX стагодзьдзя быў часам, прыгнечаньня вольнае думкі на обшарах былое Царскае Расеі ўсюды. панавала чорная рэакцыя Усё-тое, што толькі хоць ў малой меры здавалася быць праявай вольнасьці, перасьледавалась і аддавалась на зьдзек. Гэта былі часы цара Аляксандра III, каторы жялезнай рукой стлуміў залатыя мроі нават расейскіх лібэралаў аб канстытуцыі, часы, калі ўсялякая культурная языковая асобнасьць перасьледаваліся і тлуміліся ўва імя „єдіно і неделімой“. Гэта былі тыя часы, калі праменныя мроі рэвалюцыянэраў аб здабыцьці аружным чынам вызваленьня разьбіліся аб цьвёрдую сапраўднасьць жыцьця. І занапад энэргіі, заняпад веры ў перамогу запанавалі ў краі — зароўна ў Рассеі, як і на Украіне, Польшчы, Беларусі і іншых землях даўняй Расейскай імпэрыі.

У тыя часы ў невялікім месьці Наўгародзе Волынскім каля ракі Случы выховывалась Леся Украінка, ці як яе звалі сапраўды, Ларыса Косач. Бацькі яе былі з вельмі радыкальным, як на тыя часы кірункам. Але фактычна найвялікшы ўплыў на будучую паэтку зрабіў яе дзядзька, брат мацяры, ведамы Драгаманаў, галоўны ідэалёг украінскай радыкальнай інтэлігэнцыі. Дзеля зразу меньня шляху творчасьці Лесі Украінкі трэба тут так сама адзначыць, што сям'я ў якой выховывалась яна, належала да нялічнай у той час нацыянальна сьведамой украінскай інтэлігэнцыі. Дзеля гэтага пытаньне нацыянальнага адраджэньня не стаяла так балюча перад ёю, і ўсе думкі паэткі кіраваліся да нацыянальнага і сацыяльнага вызваленьня.

Пісаць Леся Украінка пачала дужа рана: ад 14 гадоў ўжо друкавалася, і за нядоўгае сваё жыцьцё (1871—1913) напісала шмат лірычных і драматычных твораў апроч іншых рэчаў, маючых менш значэньня ў яе творчасьці. Лірычную творчасьць Лесі Украінкі можна падзяліць на два пэрыяды: ў першым пераважае тэматыка асабістага характару, ў другім — асабістыя тэмы адыходзяць на далейшы плян перад грамадзкімі — пры адначасным паглыбленьні паэтычнае штукі.

## II.

Найбольш інтымная асабістая лірыка—лірыка каханьня — вельмі мала займае мейса ў творчасьці Лесі Украінкі. Гэта аддзяляе яе ад большасьці песьнярак, ў якіх лірыка каханьня займае пераважна першае мейсца. Для жанчыны з душой барацьбіта, каханьне — гэта „сон літньоі ночі“, можа чароўны, ясны сон, за якім поэтка адчувае жаль, але душа яе імкнецца да барацьбы. „Собі я бажаю не сну, а

життя“ кажа паэтка. Шчасьце можа быць толькі ўва сьне, але тсй, хто прачхнуўся, павінен забыць аб шчасьці, бо чакае яго цьвёрдая доля змаганьня, бо „йому вже до щастя нема вороття“.

Ідэя барацьбы становіць галоўную тэму лірыкі Лесі Украінкі і зьяўляецца, можна сказаць вуглаўным каменем яе творчасьці. У той час, калі ўсе заняпалі на духу, яна толькі, кволая і хворая дзяўчына, заклікала да змаганьня да астатняе перамогі, а калі перамогі ня будзе, да сьмерці ахвярнай ніякіх кампрамісаў, ніякай ўгоды не прызнавала яе душа. „Будь проклята кров ледача, не за родний край пролита!“ Здаецца, мала хто ў паэзыі выставіў такую апотэозу гэраічнай сьмерці, якую выстаўляла ў сваіх творах Леся Украінка. Можна хіба зрабіць ёй закід, што яна вышэй ставіла героічную сьмерць за шчасьце перамогі. Яна бачыла, як яшчэ далёка да вызваленьня Украінскаму народу, але сэрца яе не хацела кампрамісаў: „Убий, не здамся!“ І сілаю ўнутранай канечнасьці яна мусіла апотэозаваць сьмерць у змаганьні.

У іншых у падобных абставінах часта зьяўляецца ідэалёгія пакоры, непраціўленьня злу, ці ляпей кажучы, пасыўнага спраціву яму. Найлепшым выразам гэтае ідэалёгіі зьяўляецца хрысьціянства. Прапаведоючыя гэту ідэалёгію абяцаюць ў нагароду за наняволеньне і земскія цярпеньні—каралеўства небеснае, або поўнасьць маральнае вартасьці, становячай вышэйшае задаволеньне і шчасьце.

Супроць гэтае псыхалёгіі Леся Украінка выступала вельмі востра. Яна ведала што толькі ў змаганьні можна здабыць волю.

Шмат у якіх мясцох яе твораў мы спатыкаем апотэозу ненавісьці—ня тое злое, сляпое ненавісьці, якая замяняе чалавека ў зьвера, але сьвятое ненавісьці да тварцоў крыўды, няволі і нядолі, якая, як быццам кідае рукавіцу старому сьвету. Так, напр., ў прыгожым вершы „Товарищці на спомін“ кажа яна іранічна: „Що вдіє риб прониженни, несчасний, Як буде проповід читать своім поном?“ У гэтым сэнсе вельмі можа быць цікаваю драма Лесі Украінкі „У катакомбах“, дзе яна выстаўляе на сцэне нявольніка—нэофіта, які прыняў хрысьціянства, спадзяючысь ад яго вызваленьня нявольнікаў. Але пасьля, убачыўшы, што хрысьціянства абецае нагароду ў небясох, на зямлі-жа прыказвае цярпець, пакідае хрысьціянаў, кажучы: „А піду за волю проти рабства, я виступлю за правду проти вас“.

Словы гэтыя вельмі характэрыстычныя. Іменна, імкненьне да праўды і волі зьяўляецца галоўным мамэнтам яе творчасьці. У сучасны момант шмат гутаркі ідзе аб „павадырох“ і кіраўніках, якія хочуць праводзіць за сабою народныя масы. Яна адважна кідае падобным „павадыром“, якія спэкулюць на народнай нясьведамасьці. „А я піду за волю проти рабства, я выступлю за правду проти вас!“

Апотэзу волі знаходзім ў поэме Лесі Украінкі „Одно слово“. Адно слова дзеля нястачы якога чалавек памірае,— гэта воля—

таксама неабходная чалавеку, як паветра і вада. Але шмат ёсьць разуменьняў волі. Бо ёсьць і такія, для якіх воляй зьяўляецца магчымасьць уціску і зьдзеку над слабейшым. Мы добра бачым на сваім грунце, колькі розных ёсьць разуменьнў вызваленьня беларускага народу. Ці павінна быць вызваленьне буржуазным, ці сацыялістычным?, ці належыць разумець патрэбы працоўных ўсяго сьвету, ці толькі свае ўласнае бацькаўшчыны? Леся Украінка належала да сацыялдэмакратычнае партыі, але не маглібы мы сказаць, што гэта праходзіць чырвонаю стужкай праз усе яе творы. Наадварот, у большасьці вершаў мы бачым заклікі да нацыянальнага вызваленьня без бліжэй азначанага зьместу. Аднак гэта зусім ня знача, што паэтка выразнага ідэалу будучага сацыяльнага ладу сабе не стварыла. Толькі што матыў тварэньня будучага сацыяльнага ладу, як роўна й матыў сацыяльнае барацьбы, як быццам хаваліся ў яе за матывам змаганьня з пераможцам-ворагам за нацыянальнае вызваленьне Украіны. Што гэта так, а не іначай, даказывае ўжо адзін з вершаў яе раньняе моладасьці: „Досвітні огні". „Досвітні огні", якія сярод цемры ночы прадвяшчаюць наступленьне дня—гэта рух працоўных ўсяго сьвету. „Досьвітні огні переможні, урочі прорізалі темряву ночі, ще сёняшні промені сплять. –Досьвітні огні вже горять, То світять іх люди рабочі". Цікавым таксама паводле зьместу ў пазьнейшай творчасьці поэткі зьяўляецца верш яе „Дим". Ў гэтым вершы яна, можна казаць, сымбалічна прадстаўляе, як ад ідэалёгіі вузка-нацыянальнай перайшла да зразуменьня патрэбы працоўных ўсяго сьвету. Зямля італьянская раней здавалась ёй чужою. Яна процістаўляла тэй краіне свае роднае Валынскае Полесьсе. Але, калі яна пабачыла дым ад комінаў фабрыкаў у Генуі, калі яна пабачыла бледныя твары работнікаў, тады ёй згадаліся работнікі на бацкаўшчыне, згадаўся той дым, што й там—кажучы славамі паэткі — засьцілае ім неба й сонца і п'е кроў з іх твару. Зразумела тады яна, што нядоля працоўных сусьветна. „Той дим проник мені у саме серце, тиснулось воно, і заніміло, і вже не говорило: „чужина".

III.

Як мы ўжо зазначылі вышэй, галоўнай ідэяй творчасьці Лесі Украінкі ёсьць змаганьне за волю, няўхільна — да сьмерці або перамогі. Гэта было аднак трагічным. Трагічным, бо эканамічныя абставіны яшчэ ня вытварылі сьвядомасьці ў самым народзе. Народ застаўся несьвядомым, раўнадушным да заклiку да змаганьня за волю. „Народ наш мов дитя сліпеэ зроду, ніколи світа — сонця не відав: за ворогів іде в огонь і в воду, Катам своіх поводирів оддав". Цяжка было паэтцы на бацькаўшчыне, дзе так выразна выступала падняволеннасьць народу і няздольнасьць яго да барацьбы за свае правы. І часта яна мусіць лятуцець аб вальнейшым паветры Заходняй Эўропы, а ўся Украіна здавалася ёй адным вастрогам. Пляма нявольніцтва, здавалася ёй, на заўсёды застанецца на тых, якія радзіліся ў паняволеной бацькаўшчыне. Трэба ўсё зрабіць, каб збурыць вострожныя

муры: „Хай гине честь, сумління. А бы упала ся тюремная стіна! Нехай вона впаде і зрушенэ каміння. Покриэ нас і наша імена!“ Калі трэба, ў ахвяру вызваленьню роднай краіны павінны мы аддаць свой гонар, сумленьне, жыцьцё і славу, загінуць безімённа. Трэба ўсяго сябе аддаць актыўнаму чыну. Але пакаленьне таго часу ня было да гэтага здольным. Гэта былі „паралітыкі з бліскучымі вачамі“, вялікія духам, малыя сілаю, якія маглі толькі плакаць ці мроіць. І ўся творчасьць Лесі Украінкі была толькі голасам гукаючага, ў пушчы. Нават сама яна не станавіла вынятку з усяго пакаленьня, і мела жывую сьвядомасьць гэтага. Аб сабе яна казала: „Я згадую в думці безсилья свое“. Яна бачыла, што адзінаю зброяй яе зьяўляецца слова, што яна можа толькі заклікаць іншых да змаганьня, але ніколі змагацца сама. У гэтым была найглыбейшая трагэдыя яе душы. Яна казала аб сабе: „Не думай-же, що твій адважный спів Другіх, а не тебе до бою заклікае“. У вершы „Грішниця“ яна кажа аб дзяўчыне, якая падлажыла міну пад му рваронага места. Выбух ня прынёс вялікае шкоды і яна мусіць цяпер уміраць дарэмна. Няма сумляваньня, што паэтка у тэй дзяўчыне бачыць сябе. Яе так сама „любов нэнавісти навчила“, і яна так сама мусіла ўміраць дарэмна, бо песьнямі сваімі ня збурыла мур вастрожны свае айчыны.

Усё-ж паэтка не магла ня бачыць вялікага значэньня свайго поэтычнага слова, ведаючы аб значэньні літэратуры ў жыцьці грамадзкім. І паэтка спадзяецца, што слова яе, ў руках братоў незнаных будзе лепшым мячом на катаў.

Мы тут падыходзім да квэстыі поглядоў Лесі Украінкі на ролю і значэньне паэта ў грамадзкім жыцьці. З вышэйсказанага ясна, што грамадзкая лірыка Лесі Украінкі мела на мэце заклікаць народ да адвагі, да бязупынага змаганьня за волю. Аднак, яна была зусім чужая да вузка утылітарных поглядаў на ролю паэзыі, наадварот, паэзыя для яе — гэта „Божая іскра“, якую ніхто ня можа ані запаліць, ані ўгасіць, і лягчэй навучыць вар'ятаў быць разумнымі, чымсь нагадаць паэту пісаць на тыя ці іншыя тэмы. Паэзыя сама ў сабе зьяўляецца незалежнай вартасьцю. У гэтым погляд паэткі на мастацтва для самога мастацтва прыпамінае Пушкіна. Аднак зараз-жа зьяўляецца і проціленснасьць — з пункту гледжаньня на трываласьць памяці, якая застанецца пасьля сьмерці паэта. У той час' калі Пушкін кажа „Я памятник воздвиг себе нерукотворный, к нему не заростет народная тропа“, для Лесі Украінкі наадварот — „Як умру я, імення славутне. Хутко в пам'яти зникне усім хутко-хутко усе „незабутне“ Забуваеться в світі отсім!“ Аднак застанецца пасьля паэта нешта трывальшае за яго славу: гэта песьні ягоныя, аб якіх паэтка кажа: „Але поки ще буде на світі Хоч эдина людина сумна, Доти буде між людьми бренити Моя пісня смутна-галосна“.

Гэтая проціленснасьць поглядаў выплывала з самога характару ідэалёгіі абыдзьвюх паэтаў. У той час, калі для Пушкіна, прадстаўніка шляхоцкага романтызму і байронізму, адзінка зьяўлялася тым

centrum, якое творыць гісторыю і адгулівае ў ёй найважнейшую ролю, калі „народ безмолвствует", для Лесі Украінкі адзінка растапляецца ў моры людзкога жыцьця і зьнікае зусім як асабістасьць. Паэтка не жадала для сябе славы, бо гэтае імкненьне было чужым для яе натуры. Яна апотэозавала не слаўную Бэатрычэ, а нікому зяведамую жонку Данта, з чые шэрае, будзённае працы вырасла слава тамтае. Для яе піраміда эгіпская—гэта помнік не вялікага фараона, але тых нязнаных работнікоў, якія гэты помнік злажылі.

### IV.

Вось галоўны зьмест творчасьці Лесі Украінкі з боку ідеалёгічнага. Ня трэба аднак думаць, што паэтка займалась выключна грамадзкімі матывамі, шмат у ёй ёсьць і чўжое гетым тэмам лірыкі, сярод якое, бязумоўна, пераважаюць апісы хараства прыроды. Такія апісы, як апісы вясны і восені ў „Лісовоі пісні" зьяўляюцпа бязумоўна chef-d'oeuwre амі украінскай паэзыі. Наагул, сярод апісаў прыроды ў яе пераважаюць вясна і восень, як найбольш эмоцыянальныя поры году. Пры гэтым ўсе яе апісы прыроды адрожніваюцца глыбінёю, шчырасьцю і ціхім смуткам. Апошні часткова выплавае з самое контэмпляцыі прыроды, часткова-ж да гэтага трэба дадаць тую хваробу паэткі (сухоты), а якая промушала яе ўглядацца са смуткам нават ў бадзёрыя праявы вясны. Зьяўлялась тады балючая антытэза. „Співало все, сміялось і бреніло, — А я лежала хвора й самотна". Аднак шырокая радасьць прыроды заўсёды перемагала над пачуцьцём хваробы і адзіноты паэткі, і песьня канчалася гымнам на чэсьць ўладарнай вясны: „Весны такої не було й не буде, як та була що за вікном цвіла". У гэтым гымне радасьць прыроды са смуткам жыцьця паэткі перапляталіся й зьліваліся ў глыбака-ўзрушаючую сынтэзу.

Ня будзем тут ўвахздзіць глыбей у драматычную творчасьць Лесі дзеля таго, што гэта заняло бы за шмат мейсца. Зазначу толькі мімаходам, што ў ёй толькі ўважаюць вяршыну Лесінае творчасьці, што толькі ў такіх рэчах, як „Лісова пісня" або „Оргія" паэтка сапраўды зьяўляецца волатам мастацкае думкі. Дзьве вышэйназваныя драмы, зьяўляюцпа ня толькі верхавінай творчасьці Лесі, але й верхавінай драматычнае творчасьці украінскае літэратуры. Сымбалічныя, паводле зьместу свайго, яны датычацца найглыбейшых праблемаў філязофіі жыцьця. Асабліва гэніяльнай зьяўляецца яе „Лісова пісня"—драма, напісаная ў працягу некалькіх дзён ў 1911 годзе. Ў гэтай драме на грунце народнае міталёгіі Валыні разьвіваецца вечная праблема адносінаў паміж чалавекам і прыродай. Паводле хараства сымбалічных вобразаў крытыкі пароўнываюць яе з адпаведнымі творамі Гаўптмана і Мэтэрлінка.

Наагул, трэба адзначыць, што Леся Украінка бадай першая пазнаёміла украінскую літэратуру з усімі галоўнымі кірункамі заходня-эўропэйскай паэзыі. Ў яе творах адбіліся і сымбалізм Гаўптмана

і Мэтэрлінко, і орыенталізм „Крымскіх Сонэтаў“ Міцкевіча, і рожнакаляровасьць з філёзафічнай ахварбоўкай Альфрэда-дэ-Мюссэ, і бліскучая іронія Гайнэ. Асабліва трэба заўважыць уплывы апошняга ў паэзыі Лесі Украінкі, не зважаючы на процілежнасьць характараў халоднага буржуа скептыка Гайне і запальнае ўкраінскае дзяўчыны. Іх лучыла апотэоза рэвалюцыі. Паэтка напісала ў Гайнаўскім стылю цэлую паэму „Давня казка“; апроч таго пэратлумачыла шмат Гайнаўскіх вершаў. Ня трэба хіба тут зазначыць, што багацьцё ўплываў у паэзыі Лесі Украінкі сьведчыць аб багацьці яе паэтычнае лектуры і адукацыі, але ніколі—аб нястачы самастайнасьці ў разгляданьні паасобных тэмаў.

З вышэйшага ясна, якое значэньне ў развіцьці украінскае літэратуры павінна мець творчасьць Лесі Украінкі. Аднак, вартасьць яе паэзыі не адразу была ацэняна. У той час, калі такія волаты украінскай літэратуры, як Шаўчэнка або Франко адразу па належнасьці былі ацэнены праз сучасных, Леся Украінка засталася праз сучасных незразумелай. Толькі пасьля дзесятых угодкаў ад яе сьмерці (1923 год) украінская крытыка больш зацікавілась творчасьцю Лесі Ураінкі, і пачалась рэгабілітацыя яе сапраўднай мастацкай і ідэалёгічнай вартасьці. І паэтка ўміраючы самотнай, магла бы аднак сказаць славамі вялікага польскага паэта: „Przyszłość jest moją, i moje będzie za grobem zwycięstwo“.

---

МАЛАДЫ.

# Вораны.

Ня кружыцеся вораны чорныя,
Вы нябійце крыльлём у вакно
Весткі вашыя мо‘ й верагодныя —
Не паверу я ім ні за што.
Не паверу, што цем непрасьветная
Будзе вечна акутываць даль...
Прыдзе, прыдзе вясна шумна—сьветлая
І зьвініць мая песьня, як сталь...



# ХРОНІКА.

— 21 красавіка г. г. адбыўся чародны агульны сход Беларускага Каапэратыўнага Банку ў Бiльнi.

— Замест выбыўшых сяброў Нагляднае Рады гр. Трэпкі, Лукашэвіча і Крука, выбраны: др. Марцінчык, інж. Даліс і Татарын, а на кандыдатаў: Пягкун, Кізевіч і Ю. Саковіч.

— На сходзе выясьнілася, што Наглядная Рада выключыла з ліку сяброў Банку гр. Р. Астроўскага, за аго шкодную дзеяльнасьць для Банку: Апублікаваньне ў „Сям'і і Школе" шкоднага для Банку і ня згоднага з праўдай ліста. Справа шкоднай дзейнасьці сябры Банку, рэдактара названай „Сям'і і Школы" гр. Вінцука Грышкевіча перадае на разгляд Наглядней Радзе, якая, як нас інформуюць, прызнала выступленьні гр. Грышкевіча не этычнымі і правакацыйнымі ў вадносінах да Агульных Сходаў Банку, аднак не на столькі шкоднымі, каб выключаць яго з сяброў апошняга.

## Пашырэньне Каапэрацыі.

— Згодна з інфармацыямі з правінцыі, ў апошнія часы там залажыліся наступныя беларускія каапэратывы: ў м. Жухавічах „Змаганьне", ў Сімакаве „Сьвет", ў Сьвіслачы „Праца", ў Войстаме „Праца", ў В. Кракоўцы „Дабрабыт", ў Шаркаўшчыне „Зорка", ў Луцэвічах „Новая Зара".

— У Вільні яшчэ ў пачатку г. г. сярод Новасьвецкіх работнікоў залажыўся каапэратыў „Новы-Сьвет", які і разьвіваецца памысна.

Усе названыя каапэратывы зьяўляюцца сябрамі Бел. Каап. Банку ў Вільні.

Як бачым, дык беларускае жыцьцё хаця павольна, але будуецца.

## Апэляцыйны суд Грамады.

— У Апэляцыйным Судзе ў Вільні ад 28 лютага да 16 сакавіка г. г. адбываўся апэляцыйны працэс Грамады, на якім вынесены наступны прыгавар: былыя паслы: Тарашкевіч, Вялошын, Рак-Міхайлоўскі і Мятла засуджаны на 6 гадоў вастрогу (было 12), гр. Акінчыц і Бурсэвіч такс амана 6 г. вастрогу (было 8). Рэшта абвінавачаным кара зьменшана розна, так што адны былі выпушчаны з турмы адразу пасьля працэсу, а другія крыху пазьней. Некаторыя выпушчаны пад каўцыю. Для былых паслоў і гр. Акінчыца і Бурсэвіча каўцыя не дазволена.

## Студэнская вечарына.

— 17 сакавіка г. г. Бел. Студ. Саюз ў салі прамыслова-гандлёвага Клюбу ладзіў вечарыну. У праграму ўваходзіла: 1) драма Бэна: „Нажыўся", 2) камэдыя Бажэнава: „Шустрая Бабулька" і 3) Канцэртны аддзел.

Гульня артыстаў, як і наагул ўся вечарына, прайшла вельмі добра.

### З 1 траўнявых падзеяў.

— Як інфармуе 5 кніжка „Сахі" (з траўня г. г.), на пер-

шага траўня ў Вільні адбыліся 2 паходы. У адным з іх, складаючымся з нескалькіх тысяч маніфэстантаў, прыймалі ўчасьце і беларусы-радыкалы, на чале з пас. Дварчанінам.

„У часе гэтага паходу"—піша „Саха"—неякія асобы „стараліся перашкодзіць паходу, ў вывіку чаго некалькі асоб было „патурбована", а адзін работнік, (ранены цяжка куляй ў жывот—Рэд) праз некалькі дзён памер".

Далей „Саха" апісвае наступна закончаньне гэтага паходу: „на вуліцы Вялікай гр. Дварчанін пачаў прамову да работнікаў. У гэты момант яго схвацілі „неякія асобы з цывілі" і пахо „разьвязалі". Цераз некалькі гадзін пасол Дварчанін зьявіўся ў сэкрэтар'ят Пасольскага Клюбу з „першамайскімі адзнакамі" ў пастаці сінякоў і ран на галаве. твары, пад вачыма і на целе. Зараз жа была аказана пацярпеўшаму прыватная лякарская помач.

— На днях выходзіць з друку зборнік беларускіх народных песьняў для мяшанага хору.

Сабраў і выдае Г. Шырма.

## З Бел. Дабрадзейнага Т-ва.

Агульны гадавы сход Дабрадзейнага Т-ва, які быў вызначаны Урадам Т-ва на 19 сънежня 1928 г. згодна з пастановаю Рэвізыйнае Камісіі быў адложаны на 20 студня г.г., аб чым і былі паведомлены належныя ўлады. Але старшыня Ураду Т-ва гр. Шырма і сябры гр. гр. Пяткевіч, Кэпэль і Савіцкі (апошні застаў. вывезены у Радавы Саюз), былі выкліканы 19 сьнежня 1928 г. адміністрацыйным парадкам у Староства ў нейкіх „справах" вымагаўшых іх даўжэйшае асутнасьці, бо аж два дні хадзілі на баданьні. У тым часе якраз і адбыўся „агульны сход" Т-ва, скліканы іншымі яго сябрамі. „Сход" над старшынством п. Луцкевіча, які не зьяўляўся сябрам Т-ва, выбраў новы ўрад з старшынёю — Сакаловай, скарбнікам — Каўшом, сэкрэтаром—Шнаркевічам і сябрамі — Сіняўскім, Астроўскім і другімі.

Старшыня Т-ва, гр. Шырма і Рэвізыйная Камісыя падалі пратэст супроць гэтага Сходу ў якім заяўляюць, што лічаць як сход, так і выбары новага ўраду няпраўнымі, тым балей, што „сход" правялі асобы, якія не належаць да Дабрадзейнага Таварыства.

## Ахвяры на фонд „ВОЛЬНАЕ ДУМКІ"

Атрымалі ад: кл. Уласевічанкі В. —10 зл., к. Я. Хвораста — 15 зл., к. Я. Касяка—5 зл., к. Скурчанка М. —15 зл., к. Т. Вялецкі — 6 зл.. к. Кіта Б.—10 зл., к. А. Вярбіцкі — 12 лз., к. Карнюк А. — 4 зл., Ю. Саковіч—20 зл., Кулеша—13 зл., гр. Н. Рак-Міхалоўскай — 10 зл.. гр. Веры Тарашкевіч —65 зл. гр. О. Грэцкая — 30 зл., гр. Я. Грэцкага—50 зл., Кур'янкі—10 зл., гр. Яз. Гаўрыліка—50 зл., гр. В. Гаўрылічыхі—25 зл., гр. Крынчыка—50 зл., гр. Ф. Валынца — 50 зл.,

Усім ахвярадаўцам шчырая дзякуй.

Выдавец-Рэдактар: Г. Вялецкі. Друкарня С. Бэкера Вільня, Субач 2.

